# МІНСКАЯ ПРАЎДА

Газета заснавана 1 лістапада 1950 года — Аўторак, 27 снежня 1994 года — № 139 (10839) — Цана 80 руб.


## Парадзелі рады заслужаных...

Крыху больш трох соцень састарэлых людзей у вобласці атрымліваюць на сённяшні дзень пенсіі "за асаблівыя заслугі перад Рэспублікай Беларусь". Многа гэта ці мала? Як паведамілі рэдакцыі ў абласным аддзеле сацыяльнага забеспячэння, у часіны не надта аддаленыя на Міншчыне налічвалася некалькі тысяч персанальных пенсіянераў рэспубліканскага і мясцовага значэння.

Якія ж заслугі, спаўна ацэненыя былымі ўладамі, прызналі ўлады "малодшыя"? Паводле звестак аблсабеса, пенсіі за асаблівыя заслугі перад Рэспублікай Беларусь атрымліваюць, папершае, 288 асоб, удастоеных ганаровых званняў рэспублікі. Па-другое, 16 удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны, узнагароджаных пяцю і больш (жанчыны — трыма і больш) ордэнамі за баявыя і працоўныя заслугі. Па-трэцяе, 25 Герояў Сацыялістычнай Працы. І, нарэшце, адзін Герой Савецкага Саюза, адзін лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР і адзін лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР.

Акрамя таго, больш дзвюх соцень кандыдатаў на "персаналкі" чакаюць рашэння камісіі па ўстанаўленню пенсій за асаблівыя заслугі пры Кабінеце Міністраў Рэспублікі Беларусь. Чакаюць з нецярпеннем.

Ох, якое ж яно зразумелае...

*Інеса ПЕТРУСЕВІЧ.*

■ Парламент: дзень за днём

## Усе — на выбары! 14 мая

Збылося! Так адным словам можна рэзюміраваць вынікі работы Вярхоўнага Савета 23 снежня. Назначана дата выбараў новага саставу парламента. Па рашэнню пераважнай большасці дэпутатаў яны адбудуцца ў нядзелю, 14 мая 1995 года. Сур'ёзныя довады, праўда, былі прыведзены і ў падтрымку другой прапановы — каб выбары адбыліся 26 сакавіка. Аднак падтрымкі большасці гэтая прапанова не атрымала, паколькі ў даным выпадку падрыхтоўка выбарчай кампаніі павінна была б ажыццяўляцца ў спешцы.

Зрэшты, калі зыходзіць з часу абмеркавання праблем, то цэнтральнае месца ў рабоце парламентарыяў заняло пытанне "Аб фактах забароны публікацый матэрыялаў і парушэння кіраўніцтвам Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі пастановы Вярхоўнага Савета аб парадку асвятлення сродкамі масавай інфармацыі работы парламента". Унясенне ў парадак дня гэтага пытання было выклікана выхадам газет "Советская Белоруссия", "Рэспубліка", "Звязда" з белымі плямамі замест плануемага даклада Сяргея Антончыка. Дэпутатаў таксама абурыў той факт, што выдавецтва Беларускі Дом друку адмовіла "Народнай газеце" — органу Вярхоўнага Савета — у выпуску нумара за 23 снежня, паколькі ў ім былі запланаваны і сам даклад, і стэнаграма яго абмеркавання на пленарным пасяджэнні. Дзіўна, але ў забароне публікацый газеты ўскосна абвінавацілі парламент рэспублікі, які быццам бы не хоча абнародаваць кампрамат на сябе.

У сувязі з тым, што такімі "выпадамі" грамадзяне былі ўведзены ў зман, дэпутаты вырашылі правесці прыняцце пастановы па гэтаму пытанню пры прамой радыётрансляцыі з залы пасяджэнняў. Пасля нядоўгіх дэбатаў Вярхоўны Савет выказаў аднадушнае абурэнне фактамі забароны публікацый, якія шэрагам дэпутатаў былі названы "фактычным увядзеннем у рэспубліцы цэнзуры". Парламент прапанаваў прэзідэнту з мэтай абароны канстытуцыйных правоў грамадзян прыцягнуць да адказнасці службовых асоб, якія забаранілі публікацыю даклада Сяргея Антончыка, і даручыў Аляксандру Лукашэнку на наступным пленарным пасяджэнні Вярхоўнага Савета далажыць аб прынятых мерах. Генеральнаму пракурору рэспублікі даручана расследаваць названыя факты націску на сродкі масавай інфармацыі і даць ім юрыдычную ацэнку.

У адносінах да старшыні Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі Рыгора Кісяля парламент вырашыў пайсці на больш жорсткія меры і рэкамендаваў прэзідэнту адхіліць яго ад займаемай пасады.

Адным словам, дэпутаты маюць намер адстаяць правы грамадзян рэспублікі на атрыманне не падвергнутай цэнзуры, аб'ектыўнай і поўнай інфармацыі, гарантаваныя ім 33 і 34 артыкуламі Канстытуцыі. І ўсё ж да магчымага пакарання асоб, вінаватых ва ўшчамленні гэтых правоў, трэба пастаўіцца скептычна, паколькі, як было адзначана на сесіі, Крымінальны кодэкс рэспублікі не прадугледжвае адказнасці за парушэнне такіх канстытуцыйных правоў.

Дэбаты, што разгарэліся ў Авальнай зале, лішні раз даказалі: людзям, якіх некалькі гадзін раней дэпутаты вiншавалі з выбраннем на новыя пасады, прыйдзецца няпроста. А "дабро" на новае назначэнне парламентарыі далі многім — міністру фінансаў Паўлу Дзіку, старшыні парламенцкай Камісіі па прамысловасці Уладзіміру Новіку, выбраны таксама новыя суддзі Вярхоўнага і Вышэйшага гаспадарчага судоў. І калі іх заканадаўцы праводзілі з залы пасяджэнняў апладысментамі, то міністр жыллёва-камунальнай гаспадаркі Барыс Батура адчуваў сябе на цэнтральнай трыбуне Авальнай залы яўна не камфортна. Мякка кажучы, з недаверам была сустрэта яго заява аб тым, што грамадзяне рэспублікі ў цэлым падтрымліваюць новую палітыку Кабінета Міністраў па разліках за жыллёва-камунальныя плацяжы, якая фактычна заключаецца ў іх шматразовым павелічэнні. Падыход прадстаўнікоў выканаўчай улады быў падвергнуты рэзкай крытыцы. Асноўны довад дэпутатаў — нельга, не змяняючы сістэму аплаты працы ў цэлым, перайсці на разлікі па камунальных плацяжах па сусветнаму ўзору. Плацежаздольнасць насельніцтва рэспублікі проста не дае магчымасці гэта зрабіць.

Пасля абмеркавання данага пытання дэпутаты спынілі пленарнае пасяджэнне і па графіку, які стаў традыцыйным, на працягу двух тыдняў будуць працаваць у камісіях.

*БЕЛІНФАРМ.*

ФАКТЫ • ПАДЗЕІ • АРГУМЕНТЫ • МЕРКАВАННІ

### ПЕРШЫ Ў РЭСПУБЛІЦЫ

Паводле прызнання генеральнага дырэктара акцыянернага таварыства "Белінтурыст" Я.Р.Няхая, такога гандлёвага цэнтра, як у Салігорску, яны яшчэ не адкрывалі ў горадзе Беларусі, хаця прадстаўніцтвы АТ ёсць ва ўсіх абласных цэнтрах рэспублікі. Цудоўная прасторная гандлёвая зала, шырокі асартымент прамысловых, харчовых тавараў імпартнай вытворчасці. Хутка ў гэты супермаркет тавары з Францыі, Германіі будуць ісці напрамую...

Пакуль што гандаль ідзе за валюту. Дарэчы, цэны не вышэйшыя, чым у іншых магазінах. З новага года, у адпаведнасці з указам прэзідэнта, разлік будзе весціся ў "зайчыках". Але ў любым выпадку для пакупнікоў не павінна існаваць ніякіх праблем, бо тут жа дзейнічае пункт абмену валюты.

Новы гандлёвы цэнтр прадаставіў салігорцам багаты выбар тавараў, нарадзіў спадзяванні на высокі ўзровень культуры абслугоўвання, даў гораду паўтара дзесятка рабочых месц. Што ў нашы дні надзвычай важна.

*/НАШ КАР./.*



### Сто адзежак — і ўсе без засцежак

Паважлівыя адносіны да капусты праяўляюць у саўгасе "Дрычынскі" Пухавіцкага раёна. Сёлета яе вырошчвалі на 70-гектарнай плошчы. Ураджай сабралі неблагі — у сярэднім па 300 цэнтнераў з адзінкі плошчы. Крамяныя, сакавітыя качаны вырасцілі ў калінаўскай брыгадзе, якую ўзначальвае Мікалай Лабанок. Тут з гектара выйшла па 450 цэнтнераў каштоўнай прадукцыі.

— Менавіта белакачанная розных сартоў была і будзе асноўнай агародніннай культурай, — кажа дырэктар саўгаса Леанід Анішчанка. — Праўда, сёлетняй восенню ўзніклі пэўныя цяжкасці з рэалізацыяй капусты, хаця цана яе была не вельмі высокая. У нашым сховішчы і цяпер ёсць гэтая прадукцыя. Яна добрай якасці, прыйдзецца даспадобы людзям. Прапануем гандлюючым арганізацыям набыць капусту ў саўгасе, каб на навагоднім стале яна была ў кожнай сям'і.

■ Спажывецкая кааперацыя

*З добрым настроем сустракаюць Новы год працаўнікі спажывецкай кааперацыі Дзяржынскага раёна. Нягледзячы на цяжкасці ў эканоміцы, тут праводзяць мэтанакіраваную работу па далейшаму паглыбленню гандлёвага абслугоўвання сельскага насельніцтва. Толькі ў апошні час адкрыты некалькі магазінаў, пачаў дзейнічаць швейны цэх, працягваецца будаўніцтва кулінарнага камбіната, дзе размесціцца рэстаран, дзіцячае кафэ, кулінарны цэх.*

*У гэтым годзе рознічны тавараабарот склаў звыш 14 мільярдаў рублёў і ўзрос у 12,5 раза ў параўнанні з мінулагоднім. Абарот на душу насельніцтва — 248,6 тысячы рублёў.*



*НА ЗДЫМКАХ: адна са старэйшых работніц, загадчыца магазіна №21 г. Дзяржынска Рэгіна ШУМСКАЯ; прадаўцы гарадскога Дома гандлю Людміла БАРТАЛЕВІЧ, Алена БАРАН, Аксана КАМЕЙША, Таццяна САБАЛЕЎСКАЯ; у швейным цэху райпо Наталля ЯНКОЎСКАЯ, Вольга ДАШКЕВІЧ (майстар), Аксана СІЛІЦКАЯ, Вольга ПАЧКОЎСКАЯ, Таццяна ШАРАЯ, Ларыса ФРЫК.*

*Фота Анатоля БАСАВА.*

■ Эканоміка: рэфармацыя і дэфармацыя

## Пазбаў нас, Божа, ад сяброў...

Калі ад вялікага да смешнага ўсяго адзін крок, то ад стваральнай тэорыі да разбуральнай практыкі яшчэ меней. На такія развагі падштурхоўвае знаёмства з праектам асноўных напрамкаў грашова-крэдытнай палітыкі на наступны год, які распаўсюдзіла праўленне Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь.

Знешне ўсё выглядае даволі прыстойна. Паводле ацэнак спецыялістаў, праект упаўне адпавядае патрабаванням пабудовы рыначнай эканомікі. Палажэнні, прадугледжаныя ў гэтым дакуменце, накіраваны на стабілізацыю ў фінансава-крэдытнай сферы і заклікаsuccessful прывесці да аздараўлення эканомікі дзяржавы. Прадугледжаны шэраг новаўвядзенняў на фінансавым рынку і рынку каштоўных папер. Рынак каштоўных папер разглядаецца як важнейшы рычаг рэгулявання грашова-крэдытных адносін.

Па-першае, на фондавай біржы прадугледжваецца стварыць дылінгавыя цэнтры, што павінна станоўча паўплываць на развіццё фондавага рынку. Намечана павелічэнне аб'ёму і частаты выпуску дзяржаўных кароткатэрміновых аблігацый. Будзе праяўлены клопат і пра падтрымку другаснага рынку ДКА, а таксама іншых каштоўных папер. Пад гарантыі плануецца выкарыстоўваць маёмасць дзяржавы, а таксама залаты запас. Мяркуецца, што гэтая мера павысіць ліквіднасць каштоўных папер. Запланавана стварэнне механізма крэдытавання пад залог каштоўных папер з улікам іх рэйтынгу.

Можна і далей пералічваць запланаваныя меры, якія тэарэтычна павінны забяспечыць стабілізацыю ў фінансах і ў эканоміцы. Можна нават захапляцца эрудзіраванасцю аўтараў дакумента, цвёрдасцю іх намераў ажыццяўляць рыначныя пераўтварэнні. Нельга толькі ў выпадку прыняцця данага праекта спадзявацца на станоўчыя вынікі. Вядома, прыемна чытаць, што да сярэдзіны 1995 года інфляцыя ў нас знізіцца да 5 працэнтаў у месяц, а да канца года будзе складаць толькі адзін працэнт. Але ж сродкі дасягнення жаданага ўяўляюцца міфічнымі.

Самае страшнае ў праекце — павелічэнне мінімальнай стаўкі рэфінансавання да 40 працэнтаў у месяц. Гэта значыць, што атрымаць у банку крэдыт можна будзе не менш чым пад 480 працэнтаў гадавых. Хто зможа ўзяць такі крэдыт? А калі зможа, то куды трэба ўкласці грошы, каб атрымаць прыбытак і забяспечыць вяртаемасць крэдытаў? Відавочна, што спыніцца фінансаванне доўгатэрміновых праграм, прадпрыемствы не змогуць забяспечыць сябе сыравінай. Карыстацца такімі крэдытамі змогуць не больш аднаго працэнта суб'ектаў гаспадарання, ды і то пры ўмове накіравання грошай хіба што ў сферу наркабізнесу ці гандлю зброяй.

Яшчэ такая працэнтная стаўка можа быць выгаднай для злоўжыванняў у крэдытна-фінансавай сферы. Інакш кажучы, грошы, узятыя ў адным банку, зробяць грошы ў другім, потым, пераваандраваўшы ў прыватныя кішэні, абясцэненая сума пазыкі будзе вернута крэдытору. Багатыя будуць працягваць абагачацца, а прадпрыемствы — няўхільна набліжацца да мяжы банкруцтва.

Плануемае павелічэнне да 50 працэнтаў падатку на дывідэнды ад каштоўных папер канчаткова знішчыць гэты сектар рынку. Людзі свае кроўныя і ўжо абкладзеныя падаткам грошы не панясуць у банкі, не стануць укладваць у акцыі пры такім грабежніцкім падатку.

Глядзіш на дакумент, і нельга пазбавіцца ад думкі: сапраўды, ніводзін вораг не здолее нанесці столькі шкоды, колькі мы наносім самі сабе. Сапраўды, пазбаў мяне, Божа, ад сяброў, а з ворагамі я і сам спраўлюся...

*Павел ВЕРАБ'ЁЎ.*

## Переименования продолжаются

И вновь катится волна переименования улиц. Теперь добрались и до небольших, но уж больно "колючих" по названию. Такой для чиновников явилась улица Коммунистическая в Минске. Но жители возмущены сменой названия.

Минский городской Совет "Движение за демократию, социальный прогресс и справедливость" поддержал их и выдвинул требование отказаться от дорогостоящей затеи.

В своем письме в Мингорисполком Совет ДСПС обращает внимание на то, что данная улица отстроена жителями столицы в советский период, и ее название их полностью устраивает. А переименование нужно лишь тем, кто хочет предать забвению высокий уровень материальной и духовной жизни минчан в годы социалистического развития, подчеркивается в этом письме.

■ Рэпліка

## У ПРЭС-САКРАТАРЫ НЕ ЗАПІСВАЛІСЯ

**Усякае давялося пабачыць за трыццаць гадоў работы ў "Мінскай праўдзе". Аднак такі дакумент мне даводзіцца трымаць у руках упершыню. Нават абласны Савет, органам якога мы з"яўляемся, не патрабаваў ад нас даведак па асвятленню на старонках газеты тых ці іншых пытанняў. Ды і навошта яны? Як мы працуем, лепш за ўсё расказвае сама газета, тое, што друкуецца на яе старонках. І калі чытаеш "Мінскую праўду" рэгулярна, то сам можаш ацаніць работу супрацоўнікаў рэдакцыі. Без усякіх даведак і пасрэднікаў.**

А тут "для прадстаўлення справаздачы аблвыканкому аб выкананні праграмы занятасці насельніцтва Мінскай вобласці на 1994 год" мы павінны "накіраваць да 25 снежня ў адрас абласнога цэнтра занятасці інфармацыю", аб тым, што канкрэтна надрукавана намі па гэтай тэматыцы.

Спачатку падумалася, што памыліўся дырэктар цэнтра Л.А.Гладышаў: хацеў даслаць у рэдакцыю свой матэрыял з аналізам становішча спраў з працаўладкаваннем вызваляемых людзей, узнікаючых пры гэтым праблемах, а выпадкова перадаў не тыя паперы. Тым больш што і артыкулы работнікаў цэнтра раз-пораз з"яўляюцца на старонках газеты. Няўжо і іх не заўважае паважаны Леанід Аляксеевіч? Не гавару ўжо аб іншых аўтарах, якія выступаюць на гэтую тэму. Званю яму, каб зняць усе свае сумненні.

— Няма ў мяне часу запамінаць усё тое, што вы пішаце. Мне б работу для людзей падшукаць. І няўжо вам цяжка паведаміць, што надрукавана па праблеме занятасці? — пачуў у адказ.

Выходзіць, у нас свабоднага часу хоць адбаўляй. Што ж, кінем усё, возьмем падшыўку і будзем падлічваць, калі і чый артыкул па беспрацоўю і занятасці надрукаваны. Станем гэткім прэс-сакратаром на грамадскіх асновах у дырэктара цэнтра. Добра, калі б у яго аднаго. Вунь колькі арганізацый і ведамстваў. І калі кожны запатрабуе ад нас інфармацыю, як мы асвятляем сферу іх дзейнасці... Бо часам раздаюцца званкі: "Ці не знойдзецца ў вас лішняга нумара за такое вось чысло. Там пра нас артыкул надрукавалі, а газеты ў нас няма".

Паважаныя паны-таварышы, кіраўнікі абласных устаноў! Каб падобнымі просьбамі не ставіць сябе /і нас таксама/ у няёмкае становішча, ці не лепш вам і вашым падначаленым выпісаць "Мінскую праўду"? На студзень вы спазніліся, а з лютага можна аформіць падпіску на пяць месяцаў за 6 тысяч рублёў. Грошы невялікія.

*Пётр СІДАРОВІЧ, рэдактар сацыяльна-эканамічнага аддзела "Мінскай праўды".*

### Еще одна партия

В Доме литератора состоялась учредительная конференция политической партии "Христианско-демократический выбор Белоруссии" как партии бизнесменов, предпринимателей, коммерсантов и финансистов.

С докладом о текущем моменте, задачах и целях новой организации выступил директор СП "Консент" В.Сороко, о программе и уставе партии ХДВ говорил директор фирмы "Ранет-92" М.Бобрович.

Какова же цель и за что они будут бороться? Ответ был дан не только в принятых документах, но и в выступлениях делегатов: создание богатого среднего класса, развитие и защита частной собственности, участие в выборах Верховного Совета республики.

Конференция приняла решение подготовить документы для регистрации этой партии в Минюсте. Состоялось заседание Координационного совета, на котором ее председателем избран В.И.Сороко.

■ Блицинтервью

## ВРЕМЯ НАС РАССУДИТ

На III съезде ПКБ в члены ЦК этой партии избран бывший первый секретарь ЦК КПБ А.А.Малофеев. Журналист Анатолий Смолянко обратился к нему с одним вопросом.

**— Анатолий Александрович, не является ли ваше избрание в такой представительный орган коммунистической партии некоторым шагом к возврату в старые времена?**

— Видите ли, кто и как понимает старое время. Разве в те дореформаторские времена все было плохое? Обратитесь сегодня к людям, и по крайней мере 75 процентов скажут: дайте нам тот уровень жизни, какой у нас был раньше. Вот это и должно быть мерилом. Однако очевидно и то, что нам действительно надо было многое перестраивать, многое менять, и в этом, пожалуй, не возражал бы никто.

Скажите, а что принесли нам так называемые реформы? Обнищание, унижение, конфликты... Разорение и развал Союза — это трагедия, большая беда. Люди, наверное, долго терпеть это не смогут.

А что касается трудностей сегодняшнего дня, то они созданы во имя небольшой группы политиканов, которым захотелось быть диктаторами...

Вторая сторона вашего вопроса. Бесполезно охаивать социализм. Ничего из этого не выйдет. Еще на заре зарождения человечества люди искали справедливый образ жизни, стремились к свободе, благополучию, равноправию. И социализм в какой-то мере выражал эти чаяния. Сегодня люди теряют то, что было достигнуто. Возьмите бесплатное образование. Разве это — не завоевание народа? А другие социальные блага? Если бы раньше кто-то сказал, что у нас будет безработица, его бы засмеяли. Теперь многие трудящиеся оказались, как говорится, за воротами и лишены источника средств к существованию. Так что же лучше — социализм или капитализм?

■ Проблемы призыва

# ...ОТСЛУЖУ КАК НАДО И ВЕРНУСЬ

**Служба в рядах Вооруженных Сил есть священный долг и почетная обязанность каждого гражданина. Это строки из Конституции СССР. Нет той страны, нет ее Основного Закона. Вместе с тем в Законе Республики Беларусь о всеобщей воинской обязанности и военной службе подобные строки сохранились. И если пришел юноше положенный срок, если вышел приказ, то надо собираться молодому человеку на военную службу.**

Только не за тридевять земель, а в какой-либо гарнизон родной республики пойдет он выполнять свой долг. И служить уже надо не два-три года, как прежде, а всего полтора. В горячие точки, к южным соседям добровольно не отправят. Словом, действительная служба стала легче и «священный долг» надо отдавать родной Отчизне, ее народу. Казалось бы, никаких проблем: «отслужу как надо и вернусь», ан нет. Проблем с призывом с каждым годом в Беларуси, в том числе и в Солигорске, становится все больше. Одна из них — нежелание молодежи служить.

Значительное количество юношей, уклоняющихся от службы, было и во время весеннего призыва, предостаточно таковых и в осенний. От службы теперь уклоняется 75 молодых людей по городу и 7 человек по району.

План осеннего призыва по городу и району составляет 270 человек. Уже отправлено в областной военкомат 50. До 20 января должны быть отправлены все оставшиеся. Как же осуществляется призыв? Трудно. Начальник второго отделения военкомата майор А.В.Попков и его заместитель майор А.И.Савенок рассказывают, что это важное дело почему-то местные руководители предприятий, организаций считают обязанностью военного комиссариата и никакой помощи ему практически не оказывают. Вместе с тем Законом о всеобщей воинской обязанности предусмотрено, что призывом должны заниматься не только военкоматы, но и те же руководители предприятий, хозяйств, жилищно-коммунальные организации по месту жительства призывников. Это прежде всего оповещение юношей о сроках призыва и явки на призывной пункт, доставки будущих воинов к его месту и т.д.

— К сожалению, — говорит майор А.И.Савенок, — настоящую поддержку здесь мы находим только со стороны руководства профтехучилища №72 — директора В.П.Маштанова и преподавателя А.Н.Дудкина. Они берут на себя и разъяснительную работу и оповещение призывников. Остальные же руководители в своем большинстве вопросы призыва игнорируют.

А если юноши уклоняются от призыва? Чтобы заставить их прибыть на призывной пункт, офицеры военкомата вместе с сотрудниками милиции в минувшем году организовали специальную мобильную группу и буквально забирали призывников из квартир. Метод принудительный, не самый лучший, но благодаря ему было отправлено в войска 30 человек. Нынче от него отказались. У милиции, в связи с ростом преступности, своих забот хватает, да и с бензином проблема.

Среди «бегунков» от призыва есть и те, кто уклоняется неоднократно. Майор А.И.Попков назвал фамилии слесаря Второго рудоуправления Виктора Якеля, электрослесаря Четвертого рудоуправления Андрея Лобана, ранее судимого, шофера Юрия Сурмы и других. Ю.Сурме 23 года. Его одногодки уже давно отслужили, а ему придется «отдать свой срок» значительно позже. Ведь служить не со своим годом особенно трудно.

Этого не могут или не хотят понять уклонявшиеся от службы юноши, их родственники. Немаловажно и то, что уклонению, отмечают офицеры военкомата, способствуют родители призывников, правдами и неправдами укрывая детей от призыва. Такая «доброта» оборачивается уголовной ответственностью. Только в этом году военкоматом направлено в межрайонную прокуратуру несколько представлений о привлечении к уголовной ответственности тех, кто злостно уклоняется от призыва.

Проблема, по-видимому, скоро решена не будет, так как слабо работает механизм юридической ответственности за нарушение Закона о воинской обязанности в Беларуси. Те же представления о наказании призывников местная прокуратура переслала назад, в военкомат. Представьте себе позицию того, кто согласно Закону требует наказания уклонявшихся от призыва юношей, а поддержки у правоохранительного органа не находит.

Недавно в газетах была опубликована информация о том, что отныне все материальные расходы на поимку дезертиров и прочих служивых, самовольно оставивших часть, будут погашаться за счет самих нарушителей Закона. Об этом сообщили военный прокурор и председатель военного трибунала. Стало быть, считают в военкомате, работы его сотрудникам прибавится. И в этом деле без помощи общественности, местных органов власти, прокуратуры не обойтись. Важно, чтобы военкомат и здесь не остался один на один с этой новой для него задачей, нашел поддержку заинтересованных организаций.

Нельзя не сказать и о здоровье призывников. В ходе весеннего призыва военкоматом отправлено на службу в войска 173 человека, а оформлены в запас по состоянию здоровья 207. Высок процент «списанных» по состоянию здоровья и в ходе теперешнего военного призыва. Среди «белобилетчиков» немало страдающих желудочными, психическими и другими заболеваниями. Словом, здоровье молодого пополнения плохое и это проблема всего общества.

...В военкомат в эти дни чередой идут призывники. Один несет необходимую справку, другой — документ об образовании, третий просит направление в больницу... Когда же мы серьезно задумаемся над тем, кто же будет защищать нашу республику?

*А.ПАНАСЕНКО, офицер запаса.*



# БЯЖЫМ РАЗАМ, БЯЖЫМ УСЕ

*Калядам і Новаму году прысвячаецца*

«Мэта-42" — такая назва аднаго з самых папулярных у Мінску, ды і ва ўсёй рэспубліцы, Клуба аматараў бегу. Чаму »Мэта-42"? Гэта невыпадкова. Усе, каго аб'ядноўвае клуб, мараць аб пераадоленні марафонскай дыстанцыі, а гэта крыху больш за 42 кіламетры. Мараць — гэта не тое слова. Большасць энтузіястаў — членаў з гэтага клуба пакарылі запаветны рубеж, маюць на сваім рахунку па некалькі марафонаў, а то і дзесяткі. Прэзідэнт клуба Аляксандр Кізіл звыш пяцідзесяці разоў выходзіў на старт марафонскай дыстанцыі і паспяхова яе перадольваў.

— Важна паверыць у свае сілы, — гаворыць ён. — Калі дойдзеш да фінішу, будзеш чакаць выпадку, каб яшчэ і яшчэ раз выйсці на старт.

Клуб «Мэта-42" пры падтрымцы гарспарткамітэта, вытворча-камерцыйнага канцэрна »Святагор" і акцыянернага таварыства «ЛАМіК» стаў арганізатарам лёгкаатлетычнага прабегу, прысвечанага Калядам і надыходзячаму Новаму году. Адклікнулася рэкордная колькасць удзельнікаў — каля пяцісот чалавек, ад юных да паважаных пенсіянераў.

Расце папулярнасць бегу ў сталіцы і абласцях Беларусі. У Мінску акрамя «Мэты-42" аб'ядноўваюць энтузіястаў здаровага ўкладу жыцця клубы »Няміга", «Аматар», «Гарызонт», на кожных спаборніцтвах можна сустрэць аматараў аздараўленчага бегу з маладзечанскага клуба «Маладосць», салігорскага «Калабка», жодзінскага «Лідэра», капыльскага «Кентаўра» і іншых.

Як і напярэдадні 1994 года, старт прабегу быў дадзены ля спартыўнага комплексу «Дынама», што побач з Камсамольскім возерам. Праводзіў удзельнікаў добрым словам Дзед Мароз, ён жа Аляксандр Кізіл. Дарэчы, на фінішы кожны, хто закончыў дыстанцыю, атрымліваў ад яго «салодкі падарунак», аб чым пaклапаціліся спонсары.

Марознае надвор'е, а ў многіх месцах — галалёд не спрыялі высокім вынікам. Але не гэта галоўнае. Не будзем называць мінуты, секунды. Скажам толькі адно: прабег удаўся, была барацьба на дыстанцыі, усе засталіся задаволены.

Сярод мужчын «дваццатку» хутчэй за ўсіх прабег інструктар Капыльскага фізкультурна-спартыўнага комплексу Рыгор Нікалаеня. Ён пераможца ці прызёр многіх прабегаў, чэмпіён кросу на прыз нашай газеты.

— Бегаю з задавальненнем. Калі я на дыстанцыі, адчуваю прыліў энергіі, сіл, з'яўляецца імкненне да перамогі.

Дваццаць кіламетраў прабеглі і многія жанчыны, лідэрам сярод якіх была вядомая ў Беларусі бягуння, майстар спорту Наталля Галушка з Бабруйска. Мінчанка, майстар спорту міжнароднага класа Алена Цухло на гэты раз фінішавала трэцяй, а ў сваёй узроставай групе заняла першае месца. Дарэчы, у сваіх узроставых групах пераможцамі і прызёрамі сталі многія ветэраны. Гэта Віктар Платонаў, Аляксандр Агрызкін, Аляксей Князеў, Вячаслаў Ішчанка, Павел Сірэнка і іншыя.

Каля ста вучняў Ратамскай спецшколы-інтэрната Мінскага раёна прывёз на прабег выкладчык фізкультуры Сяргей Копцеў. І дзеці не падвялі свайго настаўніка. Яны ў асноўным выступалі на дыстанцыі 2 кіламетры, але група больш трэніраваных была заяўлена на «пяцёрку». І тут абсалютна лепшы вынік паказала дзевяцікласніца Кацярына Казак.

— Дзяўчына настойліва рыхтуецца да летніх Алімпійскіх гульняў сярод дзяцей-інвалідаў, якія ў пачатку ліпеня пройдуць у Амерыцы, — расказвае Сяргей Копцеў. — Толькі ў апошні час яна перамагала на прабегах у Барысаве, Гомелі, і вось новы поспех.

Пасля прабегу ўручаліся прызы, разыгрывалася латарэя.

*Павел ЖУРБА.*



*НА ЗДЫМКАХ: старт прабегу; Кацярына **Казак** і яе трэнер Сяргей **Копцеў**; "салодкі падарунак" на фінішы Дзед Мароз (**А.Кізіл**) уручае шафёру аўтабазы "Мінсксанаўтатранс"Андрэю **Пагуляйку**.*

*Фота Анатоля БАСАВА.*

■ Жартаўлівы гараскоп

# КІНУ ЦЫГАРЭТУ. І ПАЧНУ ІЗНОЎ.

***Казярог** — вялікі аматар скручваць казіную ножку. Кідае курыць, калі тая канчаецца. Пасля чаго бярэцца за наступную.*

***Вадалей** — гатовы курыць нават падмочаныя цыгарэты. Выключэнне — выпадковае купанне ў палонцы або падзенне за борт парахода.*

***Рыбы** — кідаюць курыць, калі адчуваюць, што канчаткова засмаліліся. Аб чым, дарэчы, можа сведчыць і рэнтгенаўскі здымак.*

***Авен** — кідае курыць раз і назаўсёды, засынаючы з цыгарэтай у ложку.*

***Цялец** — смаліць з асалодай, зусім не думаючы пра тое, каб кінуць гэтую шкодную звычку.*

***Блізняты** — надзвычай лёгка кідаюць курыць, прымаючы блізка да сэрца парады ўрачоў.*

***Рак** — ігнаруе размовы аб магчымасці раку ад курэння, але на ўсялякі выпадак карыстаецца муштуком або фільтрам.*

***Леў** — заўсёды вылучаецца сілай волі: скажа, што кіне курыць, — і абавязкова кіне, пасля чаго пачынае ізноў.*

***Дзева** — аддае перавагу дамскім цыгарэтам. Пускае дым кольцамі, употай разлічваючы, што адно з іх абавязкова стане заручальным.*

***Шалі** — звычайна не кураць. У кампаніі задавольваюцца роляй пасіўнага курца.*

***Скарпіён** — бажыцца, што кіне курыць. З вечара кідае пачак цыгарэт у сметнік, каб знайсці яго там раніцай.*

***Стралец** — можа кінуць курыць самастойна. Аднак яшчэ доўга "страляе" курыва ў сваякоў і сяброў. Пакуль тым не надакучыць.*

*Астролаг — Вячаслаў ГІЛЕВІЧ.*

■ Скатерть-самобранка

**Хорошим сладким блюдом во время поста можно считать кисели, почти вышедшие из употребления. А ведь кисель — блюдо очень полезное. Не надо только заваривать его слишком густо крахмалом, чтобы не нарушалась работа кишечника. Жаль совсем отказываться от этого старинного лакомства, столь милого и взрослым, и особенно малым ребятам.**

**Предлагаем рецепты киселя.**

## Кисель из яблок и облепихи

150 г яблок, 1 столовая ложка ягод облепихи, 2 столовые ложки сахара, 1 столовая ложка крахмала, 5 стаканов воды.

Яблоки очистить от семенной коробки, протереть. Ягоды облепихи смешать с 1 столовой ложкой сахара, растереть. Добавить 1 стакан воды, перемешать, отделить сок. Выжимки и семенную коробку яблок залить кипящей водой, варить 5—6 минут, процедить, положить сахар, яблочное пюре, довести до кипения. Крахмал развести соком облепихи, влить в кипящую яблочную смесь, снова довести до кипения.

## Кисель из варенья

Можно, конечно, использовать и засахаренное, и тогда вы будете добавлять меньше сахара. Но вообще-то рекомендуется взять для киселя варенья хорошего, клубничного, малинового или вишневого без косточек, 2 столовые ложки сахара, 1 стакан варенья, 2 столовые ложки муки картофельной, 4 стакана воды.

Варенье залить кипящей водой, варить при медленном кипении 5—10 минут, снять с плиты, процедить, добавить сахара, довести до кипения. При постоянном помешивании ввести картофельную муку, разведенную в холодной воде, вскипятить, разлить по стаканам, охладить.

А вот рецепт киселя из поваренной книги, изданной в начале века.

## Кисель лимонный холодный

Вскипятить 4 стакана воды с 200 г сахара, положить цедру с 1 лимона и сок из 1,5 лимона, дать еще раз вскипеть, процедить, поставить на огонь и влить тонкой струйкой, постоянно мешая, полстакана картофельной муки, разболтанной со стаканом воды. Когда появятся пузыри и загустеет, снять с плиты, вылить в компотницу, остудить. Тем, кто не постится, можно подать со сливками или молоком.

**Крымінал**

# ПРЫКРЫВАЛІСЯ МАСКАМІ

Апошнім часам па Барысаве пракацілася цэлая хваля разбойных нападаў на кватэры гараджан. У многіх выпадках злачынствы ўчыняліся рабаўнікамі ў чорных масках. Работнікамі гарадскога аддзела міліцыі былі прыняты адпаведныя меры па выяўленню і затрыманню рабаўнікоў. У выніку праведзеных мерапрыемстваў затрыманы дзве злачынныя групы.

На вуліцы Гагарына ў работнікаў міліцыі выклікала падазрэнне аўтамашына ВАЗ-2108, у якой знаходзілася пяць чалавек. Пры аглядзе аўтамашыны там былі знойдзены 6 чорных масак, зробленых з вязаных шапачак, рукавоў і нават з панчох, а таксама газавы пісталет. Пры дасканалай праверцы затрыманых работнікі крымінальнага вышуку высветлілі, што ўсе пяцёра з"яўляюцца ўдзельнікамі злачынных груп, якія ўчынялі разбойныя напады і кватэрныя крадзяжы ў старой частцы горада. А літаральна праз некалькі дзён была затрымана яшчэ адна разбойная група злачынцаў, якія "арудавалі" ў новай частцы горада. Устаноўлены шэраг асоб, якія маюць дачыненне да разбойных нападаў. Большасць затрыманых і падазроных — раней судзімыя.

*Мікалай ЧАПЕЙ.*

*Хатні экран*

## 27 снежня, аўторак

### Беларускае тэлебачанне

16.15. Як аднавіць прамысловасць.
17.00. Навіны.
17.10. Альтэрнатыўная медыцына ў рэспубліцы.
17.40. "Майстэрня".
18.10. Навіны (Віцебск).
18.30. "Паўгадзіны з "Мінск-балет".
19.00. Георгій Колас: "Я любіў Беларусь".
19.15. Эканамікст.
19.25. Філасофскія дыялогі.
19.55. Пяць хвілін на жарты.
20.00. "Маё каханне, мой смутак". Тэлесерыял.
20.35. Калыханка.
21.00. Панарама.
21.40. Анталогія гумару.
22.15. "Сталіца".
22.50. НІКа.
23.05. Пад купалам Сусвету.
23.15. Фестываль заходнепалескай эстраднай песні.
0.10. Аўта-парк.
0.30. Дайджэст.

### Канал "Астанкіна"

15.50, 17.50, 22.45. Навіны.
16.00. Джэм.
16.40. "Элен і рабяты". Тэлесерыял.
16.50. Свет сёння.
17.00. Рускі мір.
17.30. Загадка СБ.
17.40, 20.30. Надвор'е.
17.45. "Хто ёсць хто. XX стагоддзе". П.Врангель.
18.00. Гадзіна пік.
18.30. "Дзікая Роза". Тэлесерыял.
18.55. "Мы".
19.40. Добрай ночы, малышы!
20.00. Час.
20.40. З першых рук.
20.50. "Лёс чалавека". Маст.фільм.
22.55. Залаты шлягер.
23.40. МіраДж — узнясенне прарока Мухамеда.
24.00. Прэс-экспрэс.

### Канал "Расія"

15.00, 19.00, 22.00. Весткі.
16.00. Свята кожны дзень.
16.10. Новая лінія.
16.50. Не быць дзіназаўрам.
17.05. "Да бар'ера". Тэледуэль.
17.35. Эдуард Шэварднадзе. Тры жыцці аднаго грузіна.
18.05. L-клуб.
19.25. Падрабязнасці.
19.35. Алег Басілашвілі.
21.10. Музыка на дэсерт.
21.25. Гумарыстычная праграма.
22.20. Рака часу.
22.25. Аўтаімгненне.
22.30. Спартыўная карусель.
22.35. Экран крымінальных паведамленняў.
22.45. Тэатр "Плюс".
23.45. Зоркі гавораць.
23.50. "Грошы" (Германія).

## 28 снежня, серада

### Беларускае тэлебачанне

8.00. Навіны.
8.10. Эканамікст.
8.20. Дайджэст.
8.30. Пяць хвілін на жарты.
8.35. Фільм канцэрт.
9.00. ТБ — школе. "Музычны вобраз".
9.30. "Маё каханне, мой смутак".
10.00. Аэробіка.
13.40. Відзьма-нявідзьма.
14.40. "Белы слон" (Індыя).
16.00. Вывучаем сваю гісторыю. "Максім Гарэцкі. Прысады жыцця".
16.30. Да 50-годдзя Перамогі. Расказвае Ф.І.Кузняцоў.
17.00. Навіны.
17.10. Знаёмства з народнай мастачкай Зояй Грыгаровіч.
17.30. Парады агароднікам.
18.10. Навіны (Гомель).
18.25. Пяць хвілін на жарты.
18.35. Навіны Бі-бі-сі.
19.10. "Крок". "Пяць зорак".
20.35. Калыханка.
21.00. Панарама.
21.40. Студыя "Палітыка". Кулуары.
21.55. Анталогія гумару.
22.30. "Новы год у Оперы".
22.50. Падарункі на добры настрой.
23.05. Пад купалам Сусвету.
23.20. НІКа.
23.35. "Етвызь-94". Ч.2-я.
0.30. Дайджэст.

### Канал "Астанкіна"

5.30. Раніца.
7.50, 8.50, 9.50, 14.50, 15.50, 17.50, 22.50. Навіны.
8.00. "Топа Джыджыа".
8.25. "Дзікая Роза".
9.00. Клуб падарожнікаў.
14.00. Прадпрымальнік.
15.00. Паглядзі, паслухай.
16.00. Цін-тонік.
16.20. "Элен і рабяты".
16.50. Свет сёння.
17.00. Кампанія "Мір".
17.40, 20.30. Надвор'е.
17.45. "Хто ёсць хто. XX стагоддзе". Э.Каруза.
18.00. Гадзіна пік.
18.30. "Дзікая Роза". Тэлесерыял.
18.55. "Сельская гадзіна" з Ю.Чарнічэнкам.
19.40. Добрай ночы, малышы!
20.00. Час.
20.40. Маналог.
20.50. "Цыган з легенды". М. Слічэнка.
21.45. "Першае каханне" (Італія).
24.00. Прэс-экспрэс.

### Канал "Расія"

6.30. Формула-730.
7.00, 11.00, 13.00, 15.00, 19.00, 22.00. Весткі.
7.20. Патрабуюцца... патрабуюцца...
7.30. Час дзелавых людзей.
8.00. Навіны Эй-бі-сі.
8.25. "Пячора "Залатой ружы".
9.20. Ранішні канцэрт.
9.30. Здарова жывеш.
9.45. "Санта-Барбара".
10.35. Тэлегазета.
10.40. Сялянскае пытанне.
11.05, 13.20. Дзелавая Расія.
13.45. "Тайна цёмных джунгляў".
15.05. Рэпартажы з месц.
15.20. Студыя "Рост".
15.50. Там-там навіны.
16.05. Свята кожны дзень.
16.15. Далёкі Усход.
16.55. Экспавідэа.
17.10. Чалавек справы.
17.40. Ніхто не забыты.
17.45. Непапулярная тэма.
18.05. Фільм-прэм'ер.
18.20. Залатая шпора.
19.25. Падрабязнасці.
19.35. "Санта-Барбара". Тэлесерыял.
20.35. Лідэр-прагноз.
21.05. Газетныя гісторыі.
22.20. Рака часу.
22.25. Аўтаімгненне.
22.30. Спартыўная карусель.
22.35. Экран крымінальных паведамленняў.
22.45. "Ліманадны Джо". Маст.фільм.
0.30. Зоркі гавораць .

## 8-й канал

### 27 декабря, вторник

18.00 Мультсериал "Кругосветное путешествие Вилли Фога".
18.30 Секреты природы.
18.45 Студия "ИНТЭКС": "Новости".
19.00 Реклама.
19.05 Телесериал "Морена Клара".
19.55 Немецкая волна.
20.25 БАНТ: "Репортаж".
20.35 Реклама.
20.40 Телесериал "Шансы".
21.30 Студия "БМ".
21.45 Реклама.
21.50 Классика кинематографа. Художественный фильм режиссера Де Сантиса "Утраченные грёзы".

### 28 декабря, среда

18.00 Мультсериал "Кругосветное путешествие Вилли Фога".
18.25 СОЛТЭК: "Новости".
18.35 Немецкая волна.
19.05 Реклама.
19.10 Телесериал "Морена Клара".
20.00 Агентство "Пармикс": "Городские часы", "Новости".
20.15 Перекресток.
20.25 Реклама.
20.30 Телесериал "Шансы".
21.20 Студия "БМ": "Пророк".
21.35 Реклама.
21.40 "Забытое кино?.." Художественный фильм "Свадьба".
23.25 Реклама.

*Наступны нумар газеты выйдзе ў суботу, 31 снежня.*

**Наш адрас:**
**220013, гор.Мінск, вул.Б. Хмяльніцкага,10-А,паверх 9, рэдакцыя газеты "Мінская праўда".**

ТЭЛЕФОНЫ:
прыёмнай рэдакцыі —68-29-76,
намесніка галоўнага рэдактара —68-25-81,
адказнага сакратара —68-26-48,
сакратарыята —68-26-48,
аддзелаў: Саветаў —68-26-38,
адукацыі і культуры —68-25-76,
сацыяльна—эканамічнага —68-25-43,
грамадска-палітычнага —68-25-42,
інфармацыйна-аналітычнага —68-28-33,
пісьмаў і маральна-бытавых праблем — 68-25-83,
ілюстрацыі —68-25-03
камерцыйнага — 68-25-86,
бухгалтэрыі —68-26-65.
Тэлефоны карэспандэнцкіх пунктаў: у Барысаве —(8-277)5-15-61,Вілейцы —(8-271)5-57-86,Нясвіжы—(8-270)5-41-88, Салігорску — (8-210) 2-49-60.
ФАКС — 32-50-01.

*ЗАСНАВАЛЬНІК — Мінскі абласны Савет дэпутатаў, 220625, г.Мінск, вул. Энгельса, 4.*
"Мінская праўда"— орган Мінскага абласнога Савета дэпутатаў.

Галоўны рэдактар М.А.ШЛОМА.

Рэдакцыя можа друкаваць матэрыялы ў парадку абмеркавання, не падзяляючы пункту гледжання аўтара.
Адказнасць за падбор і дакладнасць апублікаваных фактаў і іншых звестак нясуць іх аўтары.
Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Час падпісання ў друк: па графіку 22.10.
Нумар падпісаны ў 22.00.
Набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе. "Мінскай праўды".
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку".
220013, г.Мінск, пр. Ф.Скарыны, 79.
*Індэкс 63923. Зак №139.*
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12